# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 28 (489) | ГОД X | 11 ЛІПЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.







## 26. 6. 1965г.

Беласток. Кінатэатр прафсаюзаў. Тут, у гэтай найпрыгажэйшай беластоцкай канцэртнай зале, сабраліся сёння беластачане (шмат і спаза Беластока), каб адзначыць саракавую гадавіну Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Сярод прысутных старыя рэвалюцыйныя дзеячы, члены КПП, КПЗБ, Грамады і НПХ. Для іх гэта святкаванне мае асаблівае значэнне. Гэта ж ушаноўваецца іх змаганні. Яны жывыя сведкі гісторыі. Ды яшчэ якія! Сярод нас адны з заснавальнікаў НПХ **Альфрэд Фідаркевіч** і **Фелікс Галавач.** Яны, разам са сваёй партыяй, плячо ў плячо ішлі з Грамадой. Яны цесна супрацоўнічалі з Тарашкевічам, Рак-Міхайлоўскім, Мятлой, Валошынам. А Галавач, разам з беларускімі пасламі, апынуўся ў турме.

На ўрачыстасць прыбылі таксама член ЦК, І сакратар ВК ПАРП, пасол у Сейм А Лашэвіч; старшыня Прэзідыум ВРН **С. Жмійка;** намеснік старшыні ВК ЗСЛь **Я. Чапля;** старшыня ВК СД **Р. Бартнік;** члены Бюро ВК ПАРП **Ю. Зюлкоўскі, В. Юшкевіч, К. Мадэлеўскі** і **Ю. Трусевіч.** Тут і былыя кіруючыя работнікі КПЗБ — **Ю. Кавальскі** (цяпер намеснік дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ПАРП. С. Малько (цяпер генерал), **Г. Смоляр** (цяпер журналіст) і іншыя.

Урачыстую акадэмію адкрыў член Бюро ВК ПАРП, І-шы сакратар гарадскога камітэта партыі ў Беластоку Ю. Трусевіч. Ад імя арганізатараў акадэміі — ВК ПАРП і ГП БГКТ — ён у цёплых словах прывітаў прысутных гасцей і грамадскасць і даў слова дакладчыку.

З дакладам, прысвечаным знамянальнай гадавіне ўзнікнення БСР Грамады, выступіў




Прэзідыум урачыстай акадэміі.

# СВЯТА ГРАМАДЫ



На трыбуне Альфрэд Фідаркевіч.

кіраўнік аддзела прапаганды ВК ПАРП В. Авер. Гаварыў ён аб палітычных, сацыяльных і нацыянальных прычынах узнікнення Грамады, падкрэсліваючы, што рух Грамады з'явіўся ў выніку супольнай барацьбы беларускіх і польскіх рэвалюцыйных партый. У гэтай барацьбе шляхаводнай зоркай было брацтва і інтэрнацыяналізм. Гэты тэзіс дакладчык праілюстраваў шэрагам прыкладаў парламенцкага супрацоўніцтва і барацьбы паслоў КПП, Грамады, НПХ і Сельроба. Шырока таксама асветліў тав. Авер і пазапарламенцкую дзейнасць Грамады, яе ўплыў на беларускае насельніцтва і яе ролю ў кшталтаванні брацкіх суадносін з польскім рэвалюцыйным рухам. У заключэнні дакладчык спыніўся над польска - беларускай дружбай у сённяшнія дні і над палітыкай партыі і ўрада ў адносінах да нацыянальных меншасцей, якія жывуць у ПНР. Сцвердзіў ён, што ідэі, за якія змагаліся польскія і беларускія рэвалюцыянеры, у тым і Грамада, здзейсніліся ў народнай Польшчы, дзе кожны грамадзянін, незалежна ад

(Працяг на стар. 3)



Народнымі песнямі адкрылі мастацкую частку самадзейнікі з Кошак і Градалёў.



Мастацкую частку закрываюць бадзёрай музыкай юныя акардэаністы Беластоцкага (гарадскога) аддзела БГКТ.

# РАЗВАЖАННІ НАД ЛЕТНЯЙ АКЦЫЯЙ

Зноў летнія канікулы. Ці будуць яны вясёлымі? А што ў час канікул буду рабіць? Такія і падобныя пытанні ставяць сабе ўсе: кожнае дзіця, школьная моладзь, узрослы чалавек. Перад усім ім малым і маладым стараемся зрабіць усё, каб было весела, прыемна. Каб у час канікул добра адпачывалі, папрацавалі фізічна, загартаваліся. Ім арганізуюцца ў атракцыйных мясцовасцях адпачынкі, лагеры. Аднак не ўсе дзеці карыстаюць з такіх форм адпачынку. Неразвязанай пакуль што, астаецца справа вясковага дзіцяці. Хаця і тут з года ў год наглядаюцца вялікія змены.

Штогод прыбывае нам колькасць дзіцячых садоў, арганізаваных у вёсках аддзеламі асветы, саюзамі сельскагаспадарчых гурткоў, а больш усяго ТПД. У Сакольскім павеце ў бягучым годзе будзе 10 дзетсадаў па два турнусы, а ў мінулым годзе толькі адзін бельскі аддзел ТПД арганізаваў каля 12 дзіцячых садоў на вёсках у час напружаных палявых работ. Усё ж такі, калі возьмем пад увагу агульны лік карыстаючых з гэтай формы, колькасць іх малая. Гэтая маласць не заўсёды вынікае з недахопу лімітаў, бо план Кураторыі Беластоцкай акругі не выконваецца з года ў год. Вельмі часта справа ляжыць ва ў не асведамленні бацькоў. Як частымі бываюць выпадкі, калі выязджаюць у вёску прадстаўнікі, гавораць з бацькамі, а тыя проста адмаўляюцца ад прапаноў. Гэтая несвядомасць вынікае з браку простага але разумнага выраштэння. Часта чуюцца словы аб нібыта высокай адплатнасці за побыт у дзетсадзе. Несумненна адплатнасць ёсць, але яе ўстанаўляюць самі бацькі і яна ў цэласці ідзе на паляпшэнне коштаў харчавання дзяцей. Выхавальніц і іншы персанал аплочваюць аддзелы асветы або ТПД. А нават заплаціць 100 ці 200 зл. у месяц, то сума гэтая непараўнальна нізкая да клопатаў, якія маюць бацькі з дзяцьмі ў напружаны летні час. А ўжо не ўлічваем у гэта нешчаслівых выпадкаў, якія здараюцца з дзяцьмі пакінутымі без апекі. Вялікую ролю павінны тут адыграць жаночыя арганізацыі.

(Працяг на ст. 3)




ДАДАТАК «НІВЕ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 28 (389) 11 ЛІПЕНЯ 1965 г.



У гэтым годзе ніхто не наракае, што суха. Дождж лье амаль штодзень. Вясковыя каналы паабапал дарогі ператварыліся ў сапраўдныя рэкі. Гэта рай для дзяцей. Тут і папяровы караблік можна пусціць, а нават звычайную трэску. Далёка плыве, толькі глядзі.
Вось, напрыклад, так выглядала прыдарожная канава ў Райску.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Пазнаём мяне з сябрамі і сяброўкамі. Я вучаніца V-га класа. Люблю чытаць «Ніву» і «Зорку». Часта спяваю беларускія песні.

**Мураўка Валя**
вёска Крывяцічы
пошта Орля
пав. Бельск Падляшскі

Дарагая «Зорка!»

Пішу да цябе і прашу каб ты пазнаёміла мяне з сябрамі і сяброўкамі з СССР і з іншых школ Беласточчыны. Я хаджу ў VI клас. Люблю чытаць кніжкі, газеты і спяваць песні.

**Анатолій Раманюк**
в. Дубяжына
поч. Грыгароўцы
пав. Бельск

Пішу да цябе і хачу каб ты мяне пазнаёміла з сябрамі і сяброўкамі з іншых школ. Вучуся ў пятым класе пачатковай школы. Люблю чытаць «Зорку» і «Ніву».

**Юра Філіпюк**
в. Вітава 14
пошта Арэшкава
пав. Гайнаўка.

Дарагая «Зорка», пазнаём мяне з сябрамі і сяброўкамі з іншых школ. Я вучуся ў 7 класе ў Круглым Ляску. Ахвотна чытаю «Зорку» і «Ніву». Я хачу перапісвацца з сябрамі і сяброўкамі.

**Яўген Васько**
**в. Круглы Лясок**
пошта Юшкавы Груд
пав. Беласток.

## А★Д★Г★А★Д★А★Н★К★І

Паспрабуйце намаляваць гэтую фігуру, не адрываючы алоўка ад паперы. Памятайце, што нельга перакрэсліваць фігуркі і нельга правесці два разы па адным месцы.





Прыглядзіцеся, з якіх дэталяў зроблены робат. Пералічыце іх.



Адказ на адгаданку з папярэдняга нумара.

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Zorka".

АЛЕСЬ ЯКІМОВІЧ

# ПРЫГОДЫ ХЛОПЧЫКА ІЛАРЫКА



Іларыку споўнілася восем гадоў. Ён ужо скончыў першы клас. А усё яшчэ ніяк не мог са сваімі дзіцячымі хваробамі расстацца. То адна, то другая чапляецца. Прастуда ж, дык тая і з дому, як кажуць, не вылазіць.

— Вы яго занадта песціце, — казалі дактары Іларыкавай маме. — Хлопца загартоўваць трэба. Вязіце яго ў вёску, дзе лес, рэчка, поле. Дайце яму волю і прастор. Няхай пабегае босым па сырой зямлі і роснай траве.

— Дык ён жа прастудзіцца!.. — палохалася маці. — Ён у мяне кволы.

— Не бойцеся. Улетку не прастудзіцца.

Маці ўсё ж паслухала дактароў і пачала збірацца на летні адпачынак. Лепш, вядома, вырашыла яна, паехаць не ў вёску, а ў дом адпачынку. Там і дактары на месцы, і бібліятэка, і кіно, і галоўнае — самой варыць не трэба.

## Як Іларык на каня садзіўся

І вось яны ў доме адпачынку.

Цяпер заставалася толькі паслухаць дактароў — даць Іларыку волю і прастор.

Маці так і зрабіла. Сама засела за прыгодніцкія раманы, а Іларыку сказала:

— Ідзі гуляй. Толькі глядзі, сам без мяне не купайся.

Гуляць тут было дзе. Прастору хоць адбаўляй. Не тое, што ў горадзе.

У першы ж дзень Іларыка зацікавіла падсобная гаспадарка дома адпачынку. Яна знаходзілася на прыгожай лясной паляне. Там рос зялёны сад, а паміж дрэвамі — капуста, буракі, морква. Збоку палянкі, пры самым лесе, стаялі гаспадарчыя будынкі, скляпы, цяпліцы. І тут жа, на густой мураве, пасвіўся конь каштанавай масці.

Конь зацікавіў Іларыка больш за ўсё іншае.

Іларык нарваў жменю травы. Конь падпусціў яго зусім блізка да сябе і асцярожна ўзяў траву з рукі сваімі мяккімі губамі. З'еў, чмыхнуў, нібы падзякваў хлопцу, і, сагнаўшы хвастом мух, зноў пачаў скубаць траву.

Іларык нарваў яшчэ большую жменю травы. Конь ахвотна прыняў і гэты пачастунак. «Вось каб праехаць на ім вярхом!» — падумаў Іларык.



Ён ужо мерыўся як-небудзь ускочыць коню на спіну. Але тут падышоў конюх дзядзька Рыгор.

— Не лезь да каня, — строга сказаў ён, — Яшчэ ўбрыкне.

Іларык адышоўся ад каня. Але ён быў не такі хлопчык, які можа лёгка адмовіцца ад таго, чаго моцна захоча. Ён толькі чакаў зручнага выпадку.

Чакаць прыйшлося не доўга. Неўзабаве конюх завёў каня ў хлеў і прывязаў да кармушкі з аўсом. А сам пайшоў да хаты.

Іларык заглянуў у хлеў. Цяпер яму ніхто не перашкаджаў. Але як жа ўзлезці на каня? З зямлі на яго не ўскочыш. Хлеў быў пусты і прасторны. Нідзе ніводнай перагародкі. Толькі зверху, на вышках, ляжала сена.

«А што, калі ўзлезці на вышкі, а адтуль — на каня! — падумаў Іларык. — Не ўдалося праехаць, дык хоць пасяджу на ім».

Ён так і зрабіў. Узлез па сцяне на вышкі, рассунуў дошкі насупраць каня і скокнуў яму на спіну.

Конь не чакаў такога нападу на яго зверху. Ён захроп, узвіўся на дыбы. Павады трэснулі, і конь затойсаў па канюшні, як ашалелы. Іларык зваліўся з яго ў першы ж момант і вывіхнуў нагу.

Убачыў конь Іларыка пад нагамі і пачаў супакойвацца. Дык вось хто яго так напужаў. А ён ужо думаў — рысь ці сам воўк скокнуў яму на спіну. Бо з людзей яшчэ ніхто ніколі так на яго не садзіўся.

Іларык адпоўз у цёмны куток і заплакаў ад болю і крыўды, што так няўдала ўсё скончылася. Нага пачала апухаць і моцна балела. Ісці дадому ён не мог.

Пасля абеду вярнуўся конюх дзядзька Рыгор. Бачыць — стаіць конь з адарванымі павадамі, вушамі стрыжэ.

— Што з табою, каштан? — здзівіўся конюх. — Гэта ж так павады абарваць! Ці не напужаў цябе хто?

Расчыніўшы насцеж дзверы, дзядзька Рыгор абвёў вачыма хлеў. І адразу ўбачыў Іларыка.

— Гэта ты напужаў каня? — запытаў ён.

Іларык апусціў вочы.

— Ну і ўпарты ты хлопец! — з дакорам сказаў конюх. — Каб я гэта ведаў, то сам бы пасадзіў цябе на каня.

Ён падняў Іларыка і панёс у дом адпачынку.



# МІЛАВІЦА

(частка 3)

І пайшоў далей хлапчына
з васількoвымі вачыма...

Да ракі, на Прыпяць выйшаў,
вецер хвалі ў ёй калыша.

Бачыць — човен на рацэ там.
Залатым вядзе вясельцам
гэты човен Мілавіца,
а сама, як зарніца.

Глянуў хлопец на дзяўчыну
васільковымі вачыма

і пазнаў, што вельмі мала
сонца ў небе прастаяла.

Заглядзеўшыся на дзіва,
ён і сам стаяў маўкліва.

Човен борзда ў даль імкнецца
зіхацiць пры ім вясельца.



Хлопец просіць:
— Мілавіца!
Не магла б ты супыніцца?

Супынілася, пытае:
— А бяда ў цябе якая?

Ён сказаў усё аб цудзе,
як яго паслалі людзі,

як знайшоў яе, дзяўчыну,
а цяпер напэўна згіне,

бо журба ўпадзе на сэрца
і не выйдзе аж да смерці...

Мілавіцу хлопец просіць
на сваю радзіму ў госці:

— Хай пабачыць свет і людзі,
што такой няма й не будзе.

Дай у сэрца мне надзею.
Не забуду век цябе я...

А яна яму на гэта
адказала словам ветлым:

— Маім ножкам будзе зімна.
Чаравічкі прынясі мне.

Ты зрабі з пясочку мне іх,
выйду я тады на бераг.

Як на ножкі іх абую
да цябе і павандрую.

А цяпер ізноў паеду,
не шукай майго ты следу.

У руцэ яе вясельца,
а журба ў хлапцовым сэрцы...

(Працяг за тыдзень)





# Для самых маленькіх

## ЯЧМЕНЬ

ЯРКІ ДЗЕНЬ, ЦЁПЛЫ ДЗЕНЬ —
НАЛІВАЕЦЦА ЯЧМЕНЬ.
ЗЕРНЕ Ў ЗЕРНЕ, БЫ ЧАСНОК —
УРАДЖАЙ БАГАТЫ.
КАЖА МАМЕ ВАСІЛЁК:
— ВУСЫ, ЯК У ТАТЫ.

Міхась Парахневіч



# Паглыбляй свае веды

## Кветка ратуе людзей

На схілах аднаго з дзеючых вулканаў на востраве Ява расце кветка — каралеўская прымула. Жыхары навакольных вёсак даўно заўважылі, што як толькі кветка пачынае распускацца, неўзабаве адбываецца вывяржэнне вулкана.

Таму людзі, калі ўбачаць, што прымула зацвітае, адразу ж пакідаюць свае хаты і пераходзяць у надзейныя сховішчы. За шмат дзесяткаў год добрая кветка ні разу не ашукала людзей.

Сакрэт гэтага дзіва просты: кветка загадзя адчувае самыя нязначныя награванні тоўшчы горных парод.

## Ратуючыся ад небяспекі

Яшчарка гатова адцурацца хваста, каб толькі вырвацца з рук чалавека, які яе злавіў. Хвост у яшчаркі адрастае. У трытонаў аднаўляецца не толькі хвост, але і сківіцы, нават вочы. У рака адрастае адарваная клюшня.

Гэта таму, што жывыя арганізмы маюць здольнасць аднаўляць свае пашкоджаныя часткі.





## Вера Іванюк

Вера Іванюк вучылася ў гэтым годзе ў І класе. Вучылася наздрэнна, перайшла ў другі клас і цяпер мае заслужаны адпачынак. Вера ведае, што ў час канікул можна больш памагчы маме. І ахвотна гэта робіць. Як толькі скончыліся заняткі, яна ўзяла пад сваю апеку свайго малодшага брата. І мама ёй за гэта вельмі ўдзячна. Вера дапамагае маме і ў хаце ў штодзённых работах, на панадворку.

в. Маліннікі



# Пішуць школьнікі

Дарагая «Зорка»!

Пішуць да цябе вучні першага класа з Зубава. Прабач, што мы да цябе не напісалі пісьма. Дагэтуль мы не ўмелі добра пісаць. Цяпер будзем пісаць да цябе часцей. Вельмі дзякуем Табе за здымкі, якія ты нам прыслала. Мы самі ўжо чытаем беларускія кніжкі і «Зорку». Вельмі яна нам падабаецца. Некаторыя з нас выпісваюць «Ніву». Аб жыцці нашага класа напішам у наступным пісьме.

Вучні першага класа з Зубава

## Наш клас найпрыгажэйшы

У мінулым годзе мы ўсім класам садзілі лес у ваколіцах Крыніц ля Міхалова. Мы працавалі цэлы дзень і зарабілі 300 злотых. За гэтыя грошы мы зрабілі рамонт у сваім класе, каб наш клас быў найпрыгажэйшым. Калі заробім яшчэ грошай, дык паедзем на экскурсію ў Беласток.

Юра Буйко
Міхалова

## ЗОРЧЫНА ПОШТА

Грыша Парфенюк, в. Хітра. — Вершы твае вельмі слабыя. Друкаваць іх нельга. Пішы лепей прозай і канкрэтна.

# Па слядах кутка „Пазнаёмімся“

Мяне зацікавіла пытанне, як ідзе перапіска ў дзяцей, якія пісалі ў куток «Пазнаёмімся». З гэтым пытаннем я звярнулася да дзяцей у Райску.

Коля Якубюк паказаў мне свае пісьмы, якія ён атрымаў ад дзяўчынкі з Савецкага Саюза. Вось, для прыкладу, адно з тых пісем:

«Здравствуй Коля!

Твоё письмо я сегодня получила и сразу же решила дать ответ.

Когда я получила твоё письмо, я его показала папе. И он мне рассказал, что во время Великой Отечественной войны он освобождал город Ломжу. Он передаёт большой сердечный привет всему польскому народу.

Мой папа освобождал многие города Польши (Соколка, Гданьск). Он был тяжело ранен под городом Ломжа. Несколько раз был в Варшаве.

Коля, у нас в школе абьявили конкурс на то, чей класс больше собирает фотографий героев Великой Отечественной войны. Наш класс уже собрал три фотографии героев.

Коля я тебе пришлю почтовых марок. Я собираю фотографии артистов. У меня их 400 штук.

Я выписываю газету «Юный ленинец».

В нашем городе каждый год праходят алимпиады по художественной самодеятельности. В этом году наша школа заняла первое место.

До свидания
Наташа Кондрахина»

